**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск —6.38, 17.12, 10.34;
Віцебск —6.30, 17.00, 10.30;
Магілёў —6.27, 17.02, 10.35;
Гомель —6.24, 16.59, 10.35;
Гродна —6.55, 17.26, 10.31;
Брэст —6.51, 17.31, 10.40.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 11 кастрычніка

**ІМЯНІНЫ:**
Дзяніса, Івана



# ЗВЯЗДА

16 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. пятніца, № 208 (21986)




● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## ВІЗІТ ПАЧАЎСЯ З БАРАКА

БАРЫСАЎ. (Спец. кар. БЕЛІНФАРМа). З наведання барака па вуліцы Герцэна пачаў свой візіт у Барысаў і Барысаўскі раён Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. Па гэтаму адрасу яго прывяла скарга, аўтары якой сцвярджаюць, што гарадскія ўлады нічога не робяць для паляпшэння іх жыцця. А жывуць яны, сапраўды, у жудасных умовах.

Затым кіраўнік парламента пабываў на заводзе аўтатрактарнага электраабсталявання, выступіў у Палацы культуры імя Горкага перад актывам горада, наведаў вяскоўцаў.

## У «ГАРЫЗОНТА»— СВАЕ ГАРЫЗОНТЫ

МІНСК. Нядаўна на аб'яднанні «Гарызонт» пачалі выпуск тэлевізараў шостага пакалення, мадэлі 601, 602 і 603 з кінескопамі па дыяганалі 51 і 54 см.

Першая сотня тэлевізараў 603-й мадэлі сыдзе з канвеера ўжо ў кастрычніку-лістападзе гэтага года. У кожнай навінкі — свае асаблівасці. 601-я мадэль дазваляе глядзець два малюнкі і тэлетэкст, 602-я — толькі тэлетэкст.

Цэны, нягледзячы на тое, што тэлевізары адпавядаюць сусветным стандартам, будуць ніжэйшыя за сусветныя: ад 38 да 48 тысяч рублёў.

## «Падарунак» за мяжу...

Як сцвярджае карэспандэнт брэсцкай абласной газеты «Заря», у вёсках Альманы і Гарадная Столінскага раёна прадстаўнікі брэсцкага сумеснага прадпрыемства «Яліна» займаюцца нарыхтоўкай грыбоў без усялякай праверкі іх на радыеактыўнасць. А між тым яшчэ нядаўна ля вёскі Альманы стаяў слуп з надпісам «Увага! Зона павышанай радыяцыі». Яшчэ і сёння ў мясцовых лясах узровень радыяцыі дасягае 18 і болей кюры на квадратны кіламетр.

Дарэчы, за кілаграм свежых грыбоў «Яліна» выкладае па 400 рублёў. Магчыма, піша «Заря», частка нарыхтаванай прадукцыі будзе адпраўлена за мяжу...

БелаПАН.

## БЫЛІ Б ГРОШЫ...

НАВАГРУДАК. (В. Пятровіч). У гарадскіх банкаўскіх структур з'явіўся сур'ёзны канкурэнт: пры райспажыўсаюзе дзейнічае разлікова-фінансавы цэнтр. На яго рахунку ўжо больш за 700 тысяч рублёў, якія пушчаны на развіццё спажывецкай кааперацыі раёна. Укладчыкам грошай можа стаць кожны, хто толькі пажадае, вядома, з выгадай для сябе, бо цэнтр абяцае выплачваць дывідэнды на некалькі працэнтаў большыя, чым Ашчадны банк, а рызыкі значна менш, чым у камерцыйных структурах.

## РАЎНЕННЕ НА КЫРГЫЗСТАН?

417 мільёнаў долараў асігнаваў кангрэс ЗША на тэхнічную дапамогу краінам, якія развіваюцца. Беларусь мае магчымасць атрымаць частку гэтай дапамогі, але яе размер будзе залежаць ад поспехаў нашых рэформ.

Аб гэтым заявіў на прэс-канферэнцыі прыбыўшы ў Мінск пасол ЗША Рычард Армітаж, адказны ў дзяржпэпартаменце за тэхнічную і гуманітарную дапамогу краінам СНД. У прыватнасці, ён прывёў у якасці прыкладу Кыргызстан, поспехі якога, на думку пасла, істотныя, што забяспечвае гэтай сярэднеазіяцкай краіне важкую долю дапамогі. Рычард Армітаж быў прыняты вышэйшым кіраўніцтвам рэспублікі.

РІД.

## ХОЧАШ ГАВАРЫЦЬ—ПЛАЦІ

Пагаварыць цяпер любіць кожны, асабліва па тэлефоне. Калі гарадскі тэлефон яшчэ можна замяніць сустрэчай, то міжгароднюю, а тым больш міжнародную сувязь наўрад ці.

Вось якія расцэнкі цяпер устаноўлены ў Беларусі на міжгароднія і міжнародныя тэлефонныя перагаворы за мінуту. **50 капеек** — у межах вобласці, **1 рубель** — у межах Рэспублікі Беларусь. За мяжой РБ у рэспубліках СНД: **2 рублі** — на адлегласці да 3 тысяч кіламетраў, **3 рублі** — на адлегласці ад 3 да 5 тысяч кіламетраў. У іншых краінах: **12 рублёў** — у Літву, Латвію, Эстонію. **48 рублёў** — у Польшчу, Балгарыю, Венгрыю, Румынію, Чэха-Славакію, Іспанію, Нарвегію, Галандыю, Германію, Італію, Францыю, Швецыю, Афганістан, В'етнам, Кітай, Аўстрыю, Албанію, Фінляндыю, Кубу. **64 рублі** — у Сірыю, Йемен, Іарданію, Іран, Ірак, Індыю, Турцыю, Японію, Пакістан. **96 рублёў** — у ЗША, Канаду, Ізраіль, Аргенціну, Бразілію, Лівію, Мексіку, Перу, Саудаўскую Аравію, Уругвай, Чылі, ПАР. **112 рублёў** — у Аўстралію.

## І КРАКАДЗІЛ У ДАДАТАК

**Некаторыя мінчане — уладальнікі сабак і катоў — ухіляюцца ад рэгістрацыі сваіх гадаванцаў, каб не плаціць падаткі, хоць яны і невялікія. І рызыкуюць.**

Бо толькі з пачатку года больш як у 700 гэтых жывёлін выяўлена мікраспарыя, якая прывяла да захворвання дзяцей. Усе такія выпадкі выяўляе спецыяльная гарадская служба, якую ўзначальвае начальнік ветэрынарнага аддзела Мінгарвыканкома, галоўны ветэрынарны ўрач і галоўны дзяржветінспектар беларускай сталіцы Іосіф Рамашка. Гэта служба міласэрнасці лечыць сяброў нашых меншых і вядзе ўлік колькасці пагалоўя ўсіх відаў наяўнай у насельніцтва жывёлы. Так, на сённяшні дзень мінчане ўтрымліваюць 60 коней, 320 кароў, 380 авечак і коз, каля 4.000 свіней, не менш 11 тысяч трусоў, амаль 14 тысяч курэй, амаль 1 тысячу пчоласем'яў, сабак не менш як 50 тысяч, а катоў яшчэ больш, акрамя таго, 1 кракадзіла і 2 малпы. Пра гэтыя факты паведаміла газета «Белорусский тракторостроитель».

Алег ПРАЦЬКО.

## РУХ... АЛЕ КУДЫ?

Шэсцямі, мітынгамі, сходамі і кветкамі да помнікаў «савецкай гісторыі» мяркуе адзначыць Рух за сацыяльны прагрэс і справядлівасць (РСПС) 75-ю гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі. На рэспубліканскім савеце гэтай арганізацыі прыняты таксама звароты да дэпутатаў напярэдадні адкрыцця сесіі беларускага парламента па пытаннях Канстытуцыі і моў у Рэспубліцы Беларусь. Вось некаторыя патрабаванні, якімі ўзброіўся РСПС:

— асудзіць пагадненне ў Віскулях. Падтрымаць ініцыятывы па адраджэнню адзінства савецкіх народаў;

— не прымаць закон аб прыватнай уласнасці на зямлю;

— адвергнуць абодва праекты Канстытуцыі РБ, падрыхтаваныя камісіяй Вярхоўнага Савета і БНФ як антыдэмакратычныя і антынародныя;

— адмовіцца ад устанаўлення адзінай дзяржаўнай мовы;

— адмяніць дзяржаўную сімволіку, зацверджаную гітлераўскім фашызмам у перыяд акупацыі Беларусі...

Стылістыка аўтараў рэзалюцый РСПС застаецца ранейшай— не пускаць, не прымаць, адвяргаць...

# МЫ ПОЙДЗЕМ РОЗНЫМІ ШЛЯХАМІ?..

**Крыўдна і балюча: сёння ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў самае, несумненна, вострае і супярэчлівае пытанне — міжнацыянальныя адносіны. І гэта—у Садружнасці, ды яшчэ і Незалежных краін, якія—усе разам і кожная паасобку — прэтэндуюць на безумоўнае прызнанне ў свеце, імкнуцца заняць, як пісаў наш класік, «свой пачэсны пасад між народамі»... Праз месяц—другі адзначым мы гадавіну існавання СНД, а не тое што выйсця, а нават напрамкаў пошукаў таго выйсця з міжнацыянальных канфліктаў і крызісаў так пакуль што і не акрэслена...**

Сказаць, што шляхі вырашэння праблем узаемаадносін «вялікіх» і «малых» народаў у тым ці іншым рэгіёне былога Саюза ССР не шукаюцца, вядома ж, нельга. Яны, хочацца верыць, будуць знойдзены! Але ж калі? Дакуль будзе пралівацца кроў, грымець выбухі і стрэлы ў тых жа Нагорным Карабаху, Малдове, Закаўказзі? І ці не перакінецца гэта ўсё на іншыя рэгіёны?.. Ратуй, як кажуць, Божа!

Як і іншыя суверэнныя краіны СНД, Беларусь з'яўляецца шматнацыянальнай. Прадстаўнікі больш чым ста нацыянальнасцей жывуць сёння на яе тэрыторыі. Жывуць мірна і суладна, дзелячы, як правіла, напалам усё: гора і радасць, поспех і няўдачу... І гэта пры ўсім тым, што назіралася ў былым СССР звыш сямідзесяці гадоў, што мае месца зараз у гарачых кропках Садружнасці.

Пагаварыць пра тое, хто і што мы ёсць, чым дыхаем і жывём — такой мэтай і задалася Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах, запрашаючы журналістаў газет, тэлебачання і радыё на традыцыйную прэс-канферэнцыю.

Кіраўнік парламенцкай камісіі Міхаіл Слямнёў быў, і гэта ў ягонай натуры і характары, просты, адназначны і зразумелы. Дакладна і проста (чым, дарэчы, «не грашаць» сёння многія кіраўнікі і парламенцкіх падраздзяленняў, і выканаўчых структур) Міхась Аляксандравіч выклаў перад журналістамі сутнасць пытання. Якога? Ды самага «хворага» і неадназначнага: як мы будуем сёння свае ўзаемаадносіны з іншымі народамі, як будзем і надалей праводзіць гэту палітыку. І наогул — што мы робім і куды ідзём у гэтай справе...

Зноў паўтаруся: дзякуй Богу, што сёння ў нас у рэспубліцы няма праблем у галоўным: як жыць, знаходзіць паразуменне, вырашаць справы... Мы не дзелім, і не будзем дзяліць нічога: ні па нацыянальнаму прызнаку, ні па... сацыяльнаму. А каб гэта мела месца — трэба працаваць...

Міхаіл Слямнёў прызнаў, што Беларусь была шмат часу гэтакім выпрабавальным палігонам у нацыянальных адносінах. І мы, прызнаемся, неяк раней і не задумваліся над гэтым, хоць, прынамсі, так яно і было. Тут і бязлікі «савецкі народ», і шмат што іншае. Так, нас хвалілі, ставілі ў прыклад. Але ж гэта была ілюзія, прывід...

Усё наноснае, штучнае рана ці позна выяўляецца, становіцца на парадак дня. Так, сёння мы разбірацца пачынаем ва ўсім...

Кіраўнікі камісіі Вярхоўнага Савета па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах зрабілі вялікую і даволі патрэбную нам, журналістам, справу: яны запрасілі на сустрэчу з прэсай кіраўнікоў нацыянальна-асветных таварыстваў Беларусі. Не ведаю, ці сустракаўся хто з маіх калег раней з такімі прадстаўнічымі людзьмі з таварыстваў, канфесій, суполак як на гэты раз, аднак і выслухаць іх, і прыслухацца да іхніх прапаноў і меркаванняў трэба.

Першаму заўсёды і цяжка, і складана вызначыцца ў азначэнні тэматыкі размовы. Аднак старшыня Мінскага гарадскога армянскага культурна-асветнага таварыства «Айастан» Лявон Дарбінян, гэтак жа як і ягоныя калегі Васіль Ігнат з Малдовы і Барыс Шабановіч (кіраўнік аб'яднання татар-мусульман) паставілі пытанні адназначныя і цвёрдыя: ім няма дзе працаваць, хоць памкненняў да вывучэння ў нас, у Беларусі, і армянскай, і малдаўскай, і татарскай культур хапае... Мне асабіста падалося з гэтай нагоды ўдалым выступленне Б. Шабановіча: «Раўнапраўе, якое ў нас дэкларуецца, ёсць раўнапраўе... Але ж, мы, татары, нічога не мелі тут звыш сямідзесяці гадоў, нічога не маем і зараз. Мы, як і іншыя, найперш хочам падтрымкі ад дзяржавы. І маральнай, і матэрыяльнай...»

Не дамаўляючыся паміж сабой, прадстаўнікі «малых» народаў Беларусі трымаліся на сустрэчы з намі, журналістамі, даволі дружна і ўпэўнена. І гэта не выпадкова. Іх хвалююць сёння адны і тыя ж праблемы... А галоўная з іх — як выжыць, устаяць.

Прадстаўнік асацыяцыі яўрэйскіх арганізацый і абшчын Аляксандр Гальперын быў, бадай, найбольш дзелавым і даскналa ведаючым сваю праблематыку. «Працэс адраджэння яўрэяў у Беларусі сёння ідзе актыўна, — заявіў ён, — ідзе працэс самапазнання, пазнання гісторыі, мовы, культуры. Каля 70 арганізацый існуе сёння ў Беларусі, з іх палавіна — рэспубліканскіх. Гэта прафесіянальныя, культурныя, нядзельныя і іншыя яўрэйскія арганізацыі...»

Ад кіраўнікоў самых розных — і па напрамках дзейнасці, і па сэнсу задум, па накіраванасці — чулі мы на той сустрэчы з журналістамі выказванні і прагнозы, папярэджанні і нават пагрозы. Што ж, палітычнае жыццё, асабліва цяпер, — неспакойнае, неадназначнае, крытычнае... І не таму мы славім дэмакратыю, што яна «дазваляе» выслухаць усіх і кожнага... Мне асабіста здаецца, што дэмакратыя—гэта найперш адзіны рух у адзіна вывераным напрамку. Я памыляюся? Што ж — згодзен. Тады давайце разам абмяркуем праблему.

А пакуль што—інфарамацыя для роздуму. На чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь мяркуецца разгляд пытання — даволі значнага і не ардынарнага — «Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь». Не ведаю: маю я рацыю ці не, аднак, маю думку, пытанне гэта для суверэннай Беларусі і— і важнае, і неадкладнае і прэстыжнае...

Я думаю, падстава для разваг ёсць.

Анатоль МЯСНІКОЎ.

# ДА ЎРУЧЭННЯ ВЯРЫЦЕЛЬНЫХ ГРАМАТ

15 кастрычніка Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Японіі ў Рэспубліцы Беларусь Суміо Эдамура ўручыў вярыцельныя граматы першаму намесніку Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Вячаславу Кузняцову.

Суміо Эдамура нарадзіўся ў прэфектуры Кіёта ў 1932 годзе. Пасля заканчэння дзяржаўнага ўніверсітэта Кіёта ў 1952 годзе пачаў працаваць у міністэрстве замежных спраў Японіі.

З 1965 года — загадчык аддзела краін Паўночнай Амерыкі дэпартамента краін Паўночнай Амерыкі МЗС. З 1967 года — загадчык аддзела ЗША і Канады эканамічнага дэпартамента міністэрства. З 1969 года — саветнік пасольства Японіі ў Інданезіі. З 1971 года



— саветнік пасольства ў Іспаніі. З 1973 года — загадчык аддзела замежнага прадстаўніцтва МЗС. З 1975 года — намеснік генеральнага дырэктара дэпартамента краін Азіі МЗС. З 1978 года — памочнік намесніка міністра замежных спраў па парламенцкіх справах. З 1979 года — генеральны консул у Ганконгу. З 1981 года — генеральны дырэктар дэпартамента краін Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкі МЗС. З 1983 года — намеснік міністра замежных спраў. З 1984 года — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Японіі ў Іспаніі. З 1987 года— Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Японіі ў Інданезіі. З 1990 года — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Японіі ў СССР. З 1991 года і па цяперашні час — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Японіі ў Расіі.

Жанаты.

Аддзел інфармацыі МЗС Рэспублікі Беларусь —БЕЛІНФАРМ.

## «Мы расцэньваем Беларусь як надзейнага партнёра»

— Сёння мы адкрываем новую старонку ў сяброўскіх сувязях народаў нашых краін,— заявіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Японіі ў Рэспубліцы Беларусь Суміо Эдамура, уручаючы 15 кастрычніка вярыцельныя граматы першаму намесніку Старшыні Беларускага парламента Вячаславу Кузняцову. Кіраўнік японскай дыпламатычнай місіі, які адначасова з'яўляецца паслом ў Расіі, выказаў надзею на тое, што яго дзейнасць будзе садзейнічаць развіццю двухбаковых адносін і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

Пасля цырымоніі ўручэння адбылася сустрэча пасла з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі. БЕЛІНФАРМ.

## АБ АДКРЫЦЦІ ДЗЕСЯТАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

Адкрыццё дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання адбудзецца 20 кастрычніка 1992 года ў 9 гадзін 30 хвілін раніцы ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

## ДА ВЕДАМА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыя народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, якія прыбылі на дзесятую сесію, будзе праводзіцца 19 кастрычніка 1992 года з 9 гадзін да 20 гадзін у Доме ўрада (фае залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь).

# РАДЫЁФАКТ

Напэўна, найбольш клопатаў сёння ў работнікаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі. На парозе зіма, праблем шмат, а вырашаць іх і вырашаць хутка — трэба. Як сказаў у інтэрв'ю «Радыёфакту» міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі РБ Барыс Батура, службы міністэрства гатовы да зімы. У дастатковай колькасці паліва, ёсць дамоўленасць і з забеспячэннем іншымі энерганосьбітамі, завезена неабходнае абсталяванне. Так што холад жыхарам рэспублікі не пагражае.

***

**У Мінску ў панядзелак, 19 кастрычніка, пройдзе міждзяржаўны савет па чыгуначнаму транспарту СНД. Асноўнае пытанне, якое будзе абмяркоўвацца на ім — раздзел і сумеснае карыстанне вагонным паркам і кантэйнерамі былога саюзнага міністэрства.**

***

Паводле даных Міністэрства энергетыкі, на Літву наступае вялікі паліўны крызіс. Запасаў мазуту і дызельнага паліва засталося менш чым на месяц, нафты —на тыдзень, газу амаль няма. Як паведамілі «Радыёфакту» калегі з Вільнюса, у наступным годзе за нафту і газ Літва будзе расплачвацца з Расіяй па сусветных цэнах.

***

**У Парыжы пачалася сустрэча міністраў культуры краін — членаў ЕЭС. Персанальнае запрашэнне ад свайго калегі з Францыі атрымаў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Яўген Вайтовіч. Гэта сведчыць як аб высокай ацэнцы нашых дасягненняў у духоўнай сферы, так і пра цікавасць да нас, жаданне супрацоўнічаць.**

***

Аршанскі гарадскі ЗАГС літаральна завалены цяпер заявамі ад юных гараджанак, якім споўнілася 16. Яны хочуць змяніць сваё імя на больш моднае. Адным з такіх стала Вераніка пасля вядомага тэлесерыяла. Каштуе такая паслуга 200 рублёў. Але работнікам ЗАГСа гэта абыходзіцца мінімум у дзесяць разоў даражэй. Мабілізуюцца спецыялісты архіваў, міліцыі, гарвыканкома, каб атрымаць патрэбныя звесткі. Цікава, што некалькі гадоў назад пасля прагляду фільмаў пра Анжэліку многія дзяўчынкі пачалі насіць гэта імя. І ў адзін з класаў дзіцячага інтэрната паступіла адразу 30 Анжэлік.

## ЖЫВУЦЬ ЖА ЛЮДЗІ!

З пачатку кастрычніка павялічаны размер мінімальнай заработнай платы ў Рэспубліцы Туркменістан. Яна складае 1.600 рублёў. Павышаюцца, адпаведна, памеры пенсій, дапамог, стыпендый, кампенсацыйных выплат на дзяцей, у сярэднім у 2,5—3 разы павялічваюцца службовыя аклады работнікаў невытворчых галін, што знаходзяцца на бюджэтным фінансаванні, работнікаў апарату дзяржаўнай улады і кіравання. Узровень аплаты працы працуючых у невытворчай сферы дасягне 95 працэнтаў ад узроўню аплаты ў сферы матэрыяльнай вытворчасці. Сярэднемесячны даход работніка па рэспубліцы складзе 7.029 рублёў. Для ажыццяўлення гэтых мерапрыемстваў рэспублікі патрэбна 23,5 млрд. рублёў.

Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ. (БЕЛАПАН).




## ВАША ЗДАРОЎЕ

### Калі ў вас дрэннае самаадчуванне

**Гэты масаж эфектыўны пры многіх хваробах, і ім можна карыстацца самастойна. Аднак у выпадку сур'ёзных хвароб праводзіць лячэнне па метаду шыатсу павінен толькі вопытны спецыяліст.**



Бывае, што раніцай у вас цяжкая галава і вы вельмі дрэнна адчуваеце сябе, калі напярэдадні ўвечары позна вярнуліся з якога-небудзь прыёму ці проста позна ляглі спаць. Недамаганне выклікае ў вас раздражнёнасць, азлабленне, вы становіцеся нястрыманым. Прычына такога стану — застой вянознай крыві ў вобласці галавы.

Гэта можна ліквідаваць, выклікаўшы прыліў артэрыяльнай крыві з дапамогай наступнага прыёму.

Пачніце націскаць на кропкі, якія ўказаны на малюнках, і вы адразу ж заўважыце, як галава стане праясняцца. Потым лёгка і шмат разоў націскайце вялікімі пальцамі спачатку на правую сонную артэрыю, потым на левую, пачынаючы ад ніжняй сківаіцы і апускаючыся да ключыцы. Гэты прыём выклікае пашырэнне крывяносных сасудаў, якія прыносяць свежую кроў да мозгу, а значыцца, і хуткае паляпшэнне самаадчування.

Націсканне на кропкі на галаве здымае напружанне мышцаў шыі і разумовую стомленасць, якая звычайна так зніжае прадукцыйнасць працы ў кабінетных работнікаў. Каб аднавіць увагу і працаздольнасць, вам спатрэбіцца ўсяго некалькі хвілін: націсніце трыма пальцамі на скроні ці чатырма пальцамі на патыліцу.

625

## СМАЧНА ЕСЦІ

### Частуе беларуская кухня

**Беларуская кухня вызначаецца шырокім выкарыстаннем у розных камбінацыях аўсянай, грэцкай і жытняй мукі.**

**Прапануем дзве традыцыйныя аўсяныя стравы.**

#### ЖУР ПА-ВЯСКОВАМУ

Вельмі ўмоўна жур можна назваць першай стравай, бо гэта яда даволі спецыфічная. Жур бывае посным, малочным, мясным, але заўсёды на падкіслым растворы аўсянай мукі. Падаюць жур гарачым і, як правіла, з адваранай бульбай.

Аўсяную муку або змельчаны ў кавамолцы «геркулес» развядзіце цёплай гатаванай вадой (200 г на 1 літр) і пакіньце на ноч (12—14 гадзін) у цёплым месцы. Перад гатаваннем працадзіце раствор праз сіта.

На 1 л раствору запатрабуецца 2 л вады, 0,5 кг мяса (грудзінка з дабаўленнем вяндліны або каўбасы), 3 морквы, 2 цыбуліны, 6 зубкоў часнаку, корань і зяленіва пятрушкі, кроп, соль па смаку.

Зварыце мясны булён, укіньце ў яго разрэзаныя напалам цыбуліны, моркаўкі і корань пятрушкі. Калі агародніна зварыцца, працадзіце булён і зноў закіпяціце. Памешваючы, заварыце ў ім раствор мукі. Запраўце страву расцёртым часнаком, здробненым зяленівам. Мяса нарэжце кавалачкамі і апусціце ў жур.

Адвараная бульба да журу паліваецца растопленым маслам.

#### КІСЕЛЬ БЕЛАРУСКІ

250 г аўсянай мукі ці размолатага «геркулесу», цукар

626

па смаку, 2 тонкія шклянкі вады, любы фруктовы сіроп.

Муку развядзіце халоднай вадой, дайце добра набрыняць. Пратрыце праз сіта, пастаўце на пліту і, няспынна памешваючы, дадайце цукар і заварыце густы кісель. Разліце кісель у чашкі, астудзіце.

Беларускі кісель падаецца з фруктовым сіропам, можна з ахалоджаным гатаваным малаком ці смятанкай.

### Камы

Абабраную бульбу адварыць у падсоленай вадзе, прапусціць праз мясарубку. Дробна нарэзанае сала падсмажыць з нашынкаванай цыбуляй і перамяшаць з бульбай. Атрыманую масу падзяліць на невялікія шарыкі (камы), абмакаць у муку, падсмажыць на змазанай тлушчам патэльні і запячы ў духоўцы.

Камы на стол падаюцца гарачымі, пры жаданні—са смятанай. У камы замест сала з цыбуляй можна дабаўляць тварог, гарбуз.

13—15 бульбін, 100 г сала, 3—5 цыбулін, 50 г тлушчу, соль.

### Грыбы

#### МАРЫНАВАНЫЯ

Для марынавання лепш браць белыя, абабкі, падасінавікі, маслякі; прыдатныя таксама апенькі, лісічкі, сыраежкі. Буйныя разразаюць на дзве—чатыры часткі, дробныя ўвогуле не рэжуць.

У эмаліраваную каструлю наліваюць крыху вады, дабаўляюць соль і сталовы воцат (на 1 кілаграм грыбоў паўшклянкі вады, 1 сталовую лыжку солі і паўшклянкі воцату). Калі вада закіпіць, у яе кладуць падрыхтаваныя грыбы. Па меры награвання яны пачынаюць выпускаць сок, які пакрывае іх цалкам. Як толькі сок закіпіць, у каструлю ўсыпаюць чайную лыжку цукровага пяску і спецыі (чатыры—пяць гарошын духмянага перцу, гваздзіку, карыцу, лаўровы ліст). Каб грыбы захавалі натуральны колер, можна дабавіць на кончыку нажа лімонную кіслату.

Вараць грыбы 25—30 хвілін, за гэты час яны паступова апускаюцца на дно.

627

Потым іх выцягваюць шумоўкай, адкідваюць на друшляк, каб яны астылі, перакладаюць у стэрылізаваныя шкляныя слоікі і заліваюць астуджаным марынадам, які ў час варкі становіцца празрыстым. Слоікі закручваюць пергаментам, завязваюць шпагатам і ставяць у халадзільнік ці ў склеп. Есці гэтыя грыбы можна праз некалькі дзён, а працягласць іх захоўвання ў халадзільніку— прыкладна паўтара — два месяцы, у склепе на лёдзе —да трох месяцаў.

#### САЛЁНЫЯ

Каб грыбы захаваліся даўжэй, іх лепш засаліць. Для засолкі выкарыстоўваюць у асноўным пласціністыя грыбы — рыжыкі, грузды, ваўнянкі, бялянкі, валуі, чарнушкі, апенькі, сыраежкі. Але можна саліць і губчатыя — баравікі, падасінавікі, абабкі, маслякі. Грузды, бялянкі, ваўнянкі, валуі, пякуча-едкія сыраежкі перад засолкай вымочваюць два—тры дні, двойчы на дзень мяняючы ваду. Саліць можна двума спосабамі— халодным і гарачым.

#### ХАЛОДНЫ СПОСАБ ЗАСОЛКІ

Добра прамытыя грыбы (а калі ў іх была горыч, дык вымачаныя) кладуць слаямі шляпкамі ўніз у драўляныя бочкі, эмаліраваную ці фаянсавую пасудзіну. Кожны слой перасыпаюць харчовай соллю. На 1 кілаграм грыбоў бяруць 50—60 грамаў солі, для рыжыкаў дастаткова 40 грамаў. Можна дабавіць і спецыі — два лаўровыя лісты і два — чорных парэчак, дзве гарошыны духмянага перцу. Зверху трэба пакласці цяжар, напрыклад добра памыты і апараны камень. Нельга класці цэглу (расол памутнее) і металічныя прадметы (яны ржавеюць). Цяжар павінен быць такі, каб пад яго ціскам праз два—тры дні з грыбоў выдзеліўся сок і пакрыў іх цалкам. Калі гэтага не адбудзецца, цяжар трэба павялічыць. Ужываць у ежу засоленыя такім чынам грыбы можна праз 40—45 дзён.

#### ГАРАЧЫ СПОСАБ ЗАСОЛКІ

Грыбы апускаюць у каструлю з кіпячай вадой (на 1 кілаграм грыбоў — паўшклянкі вады і 2 сталовыя лыжкі солі). Калі сок, што з іх выдзяляецца, закіпіць, здымаюць пену, дабаўляюць спецыі (адзін лаўровы ліст, два лісты чорных парэчак, тры гарошыны духмянага перцу) і вараць 10—15 хвілін, валуі — 20—25 хвілін. Звараныя і астуджаныя грыбы перакладаюць разам з расолам у фаянсавыя ці драўляныя бочкі (толькі не асінавыя) ці ў эмаліраваную каструлю. Зверху кладуць драўляны кружок з цяжарам так, каб расол пакрыў грыбы. Праз 25—30 дзён яны гатовыя да ўжывання.

Захоўваць салёныя грыбы ў халаднаватым месцы можна практычна ўсю зіму.

628

# БЮДЖЭТ ЖЫВЕ,
## але бюджэтная палітыка патрабуе карэкціроўкі

**У апошні час можна пачуць, што дзяржаўны бюджэт, маўляў, трашчыць па швах і да т. п. З гэтым, аднак, нельга пагадзіцца, хоць, вядома, цяжкасцей з выкананнем бюджэту нямала. Такім чынам, у якім стане бюджэт на самай справе і якія напрамкі бюджэтнай палітыкі прадугледжваюцца? Гэта пытанне немалаважнае, асабліва калі прыняць да ўвагі, што менавіта бюджэтная палітыка з'яўляецца своеасаблівым адлюстраваннем эканамічнай палітыкі ўвогуле.**

Так, патрэбнасці ў дадатковых расходах, сапраўды, істотна апярэджваюць магчымасці даходаў. І тым не менш, за 7 месяцаў у бюджэт рэспублікі паступіла 102,9 мільярда рублёў даходаў, або 51,3 працэнта ад гадавой сумы. Расходная частка бюджэту за гэты перыяд складае 101,7 мільярда, г. зн. перавышэнне даходаў над расходамі склала 1,2 мільярда рублёў.

Разам з тым, дэфіцыт бюджэту, які быў закладзены з самага пачатку, захоўваецца. Якія бачацца шляхі скарачэння дэфіцыту? Гэта, найперш, устанаўленне найстражэйшага рэжыму эканоміі ў расходаванні бюджэтных сродкаў; паступовы адыход ад бюджэтнага фінансавання прадпрыемстваў і гаспадарчых арганізацый, якія свае расходы абавязаны ажыццяўляць за кошт уласных сродкаў, а пры іх недахопе — прыцягваць крэдыты банкаў; максімальна магчымае скарачэнне ваенных расходаў. Вядома, што Рэспубліка Беларусь прытрымліваецца мірнага суіснавання з усімі дзяржавамі, стаіць на пазіцыях бяз'ядзернай зоны, і нам абсалютна не патрэбны вялікія ваенныя расходы. Колькасць узброеных сіл намечана давесці да 0,5—0,6 працэнта ад колькасці насельніцтва.

Эканамічныя цяжкасці, характэрныя для рэспублікі цяпер, у сувязі з пераходам да рыначных адносін, выклікаюць неабходнасць пэўнага перагляду бюджэтнай палітыкі ў галіне фінансавання асобных расходаў. Так, прадугледжваецца значнае скарачэнне датацый з бюджэту, выплачваемых цяпер на мяса, малочныя прадукты, хлеб, цукар, асобныя віды камунальных паслуг, на гарадскі транспарт і некаторыя іншыя. Далейшы напрамак — паступовае ўвядзенне свабодных цэн на ўказаныя прадукты і віды паслуг, а вызваленыя бюджэтныя сродкі належыць пераарыентаваць на павелічэнне выплат насельніцтву — заработнай платы, пенсій і дапамог. Устанаўленне свабодных цэн на прадукты харчавання з поўнай ліквідацыяй іх абмежавання, бясспрэчна, павысіць зацікаўленасць калгасаў і саўгасаў, іншых вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі ў павелічэнні выпуску гэтых прадуктаў і, у сваю чаргу, дазволіць скараціць субсідыі бюджэту. Варта адзначыць і актуальнасць прапаноў, выказаных прадстаўнікамі Міжнароднага валютнага фонду, аб увядзенні спецыяльных талонаў на асноўныя прадукты з указаннем колькасці тавару, які адпускаецца па льготных цэнах, зыходзячы з узроўню спажывання найбольш забяспечаных слаёў.

Дарэчы, становішча рэспублікі некалькі ўскладняецца тым, што развіццё макраэканамічных умоў у ёй стрымліваецца значным павышэннем цэн на ўвозімыя сыравінныя рэсурсы. Гэта патрабуе шматварыянтнасці разлікаў, карэкціруючых мер і г. д.

Значна пагоршыць фінансавае становішча неабходнасць ажыццяўлення вялікіх расходаў на мерапрыемствы па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Калі ў мінулыя гады на гэтыя мэты выкарыстоўваліся сродкі саюзнага бюджэту, гэта значыць у нейкай меры ўдзельнічала кожная рэспубліка былога Саюза, то цяпер расходы поўнасцю ляглі на наш бюджэт і складаюць амаль чвэрць яго аб'ёму. У гэтых умовах для таго, каб забяспечыць захаванне гранічнага памеру дэфіцыту, рэспубліка была вымушана ўвесці дадатковы мэтавы надзвычайны падатак — 18 працэнтаў ад фонду аплаты працы прадпрыемстваў і гаспадарчых арганізацый. Без гэтага падатку не абысціся і надалей, а разам з тым і асобныя пункты чарнобыльскай праграмы варта ўдакладніць — з тым, каб расходаваць бюджэтныя сродкі больш мэтанакіравана.

Адным з асноўных напрамкаў выкарыстання бюджэтных асігнаванняў з'яўляюцца інвестыцыі на правядзенне канверсіі былых саюзных прадпрыемстваў з мэтай паскарэння іх пераарыентацыі на патрэбы рэспублікі, а таксама падтрымка прадпрыемстваў і арганізацый сферы абслугоўвання насельніцтва (гарадскі грамадскі транспарт, прадастаўленне камунальных і бытавых паслуг, асобныя віды гандлю). Неабходнасць датацый у апошнім выпадку абумоўлена імкненнем змякчыць негатыўныя з'явы ў перыяд правядзення рэформ.

А што датычыцца дзяржаўных інвестыцый на новае будаўніцтва і рэканструкцыю прадпрыемстваў, то яны будуць прадастаўляцца строга абмежаванаму колу суб'ектаў, якія ў бліжэйшы час павінны вызначаць рыначную структуру.

Варта зазначыць: ахвотнікаў паласавацца за кошт бюджэтнага караваю, розных прасіцеляў фінансавай дапамогі як было шмат, так і засталося. Цяпер гэтых прасіцеляў нават больш, і калі задаволіць усе просьбы, можна сапраўды агаліць бюджэт. Але падобная практыка згортваецца, і па меры правядзення эканамічных рэформ як размер дзяржаўных датацый, так і напрамкі іх выкарыстання будуць скарачацца. У гэтых адносінах ужо сёлета зроблены некаторыя захады. Замест датацый дзяржаўным органам расшыраецца практыка прадастаўлення бюджэтных пазык на невялікі тэрмін. Скарачэнне датацый, а ў перспектыве — поўнае адмаўленне ад іх будзе адбывацца адначасова з нарастаннем працэсу прыватызацыі. Гэтаму будуць садзейнічаць далейшая лібералізацыя цэн, якая прадугледжвае мінімальную колькасць прадукцыі, рэалізуемай па фіксаваных цэнах, а таксама дэманапалізацыя вытворчай і размеркавальнай дзейнасці. Адна з найважнейшых надзённых праблем — забеспячэнне парытэту цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю. Гэтаму павінна дапамагчы дэклараванне цэн на тавары, паслугі, па якіх гаспадарчыя суб'екты займаюць манапольнае становішча на рынку.

У гэтым годзе ў сувязі з пераўтварэннем дзяржпрадпрыемстваў у акцыянерныя таварыствы плануецца выпуск акцый на 2,6 мільярда рублёў. Прадугледжваецца надаць статус каштоўных папер прыватызацыйным чэкам, якімі будуць надзяляцца жыхары рэспублікі для выкупу дзяржаўнай маёмасці. Каштоўныя паперы — гэта, па сутнасці, невычэрпная крыніца папаўнення бюджэту за кошт грашовых сродкаў грамадзян і юрыдычных асоб, і выгадна гэта абодвум бакам. Дарэчы, зыходзячы з неабходнасці прыняцця на сябе адпаведнай часткі ўнутранага доўгу былога Саюза, урад рэспублікі прадугледжвае ажыццявіць канверсію саюзных каштоўных папер у даўгавыя абавязацельствы Рэспублікі Беларусь.

Татальны таварна-сыравінны дэфіцыт, нястача свабодна канверсуемай валюты дыктуюць пэўную палітыку ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці. Гэта — садзейнічанне экспарту і знаходжанне іншых магчымасцей максімізацыі валютнай выручкі, рацыяналізацыя ўвозу і скарачэнне расходаў валютных сродкаў на імпарт, ажыццяўленне мер па замяшчэнню імпарту.

Адна з цэнтральных задач — далейшае ўдасканаленне падатковай палітыкі, паступовае прывядзенне сістэмы падаткаабкладання ў адпаведнасць з патрабаваннямі рыначнай эканомікі і прынятай міжнароднай практыкай. Відаць, спатрэбіцца ўніфікацыя ставак падаткаабкладання, скарачэнне кола падатковых ільгот.

**М. САХОНЧЫК,**
**намеснік начальніка Бюджэтнага ўпраўлення Міністэрства фінансаў рэспублікі.**

КОСМАС ДАЛЁКІ І БЛІЗКІ

# НЕ МОДЗЕ ДАНІНА — МАРЫ!

**...Актавая зала Расійскай акадэміі кіравання. Урачыстае адкрыццё V Міжнароднай канферэнцыі юных касманаўтаў. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь уносіць фіналіст Міжнароднага конкурсу «Разам да Марса!» віцяблянка Ірына Літвякова...**

Запуск першага штучнага спадарожніка Зямлі, палёт у космас Юрыя Гагарына абудзілі ў моладзі велізарную цікавасць да тайнаў Сусвету. У Беларусі былі створаны дзесяткі касмічных музеяў, клубаў і гурткоў юных астраномаў, касманаўтаў, ракетамадэлістаў. Тады здавалася, што колькасць іх будзе ўвесь час расці.

На жаль, мы памыліліся і тут. Вучоныя і педагогі ўжо даўно адзначылі рэзкае падзенне інтарэсу ў школьнікаў і студэнтаў не толькі да астраноміі і касманаўтыкі, але і да навукі і тэхнікі наогул. Сацыёлагі заклапочаны тым, што сфера інтарэсаў маладых людзей перамясцілася ад вучобы, тэхнічнай ці мастацкай творчасці ў галіну «балдзёжнага» баўлення часу. Згадзіцеся, такое становішча не можа не хваляваць.

Аднак на ўсё ёсць свая прычына. З чаго пачынаецца захапленне навукай і тэхнікай? З цікавай цацкі, кнігі, кінафільма ці тэлеперадачы, з першай самастойна пабудаванай мадэлі, з урока прыродазнаўства ў школе, праведзенага сапраўдным педагогам. Толькі вось дзе гэтыя цацкі ці канструктары? Дзе навукова-папулярныя кнігі і тэлеперадачы? Забеспячэнне школ і вучылішчаў нагляднасцю, тэхнічнымі сродкамі навучання, гурткоў і клубаў — матэрыяламі і дэталямі дзесяцігоддзямі заставалася і засталося (у тым ліку з-за страшэнных цэн) на ўзроўні 30-х гадоў. Я ўжо не гавару пра камп'ютэрныя гульні, вучэбныя відэапраграмы, кадравыя праблемы ў галіне дзіцячай тэхнічнай творчасці — хто сёння і колькі рыхтуе такіх педагогаў?

А цяпер паглядзіце на афішы кінатэатраў, усялякіх відэазалаў і салонаў! Масавай камп'ютэрызацыяй нашых дзяцей заняліся кааператывы і маладзёжныя цэнтры, якія прапануюць (з дапамогай той тэхнікі, якой якраз і не хапае школам і вучылішчам) хутчэй «выцягнуць куфэрак з золатам».

Не сакрэт, што многія станцыі юных тэхнікаў (праўда, цяпер яны называюцца «цэнтрамі дзіцячай тэхнічнай творчасці») знаходзяцца ў непрыстасаваных памяшканнях, а клубы і гурткі туляцца (пакуль іх яшчэ не выселілі) у падвалах ці паўпадвальных памяшканнях. Закрыты Гомельскі планетарый — яго унікальная апаратура, тысячы слайдаў валяюцца ў падвале. У цяжкім становішчы апынуўся Мінскі планетарый, які перадалі (?) Палацу дзяцей і моладзі. Ледзь ліпіць адзіны ў рэспубліцы школьны планетарый у Віцебску. Яшчэ горшыя справы ў школах, вучылішчах, тэхнікумах, дзе гурткі навукова-тэхнічнай творчасці можна пералічыць па пальцах. І гэта ва ўсёй рэспубліцы!

У Беларусі адзінкі навучальных устаноў, дзе дзеці па-сапраўднаму могуць займацца навукай і тэхнікай. А ў выніку нават у «прэстыжныя» тэхнічныя ВНУ даводзіцца не адбіраць, а набіраць студэнтаў.

Група вучоных, педагогаў, кіраўнікоў клубаў і гурткоў навукова-тэхнічнай творчасці на рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, што нядаўна адбылася ў Мінску па гэтай праблематыцы, вынесла на абмеркаванне прапанову аб стварэнні маладзёжнага астракасмічнага таварыства Беларусі. На думку ініцыятараў (у ліку якіх быў і аўтар гэтага артыкула), БелАКТа павінна аб'яднаць усіх навучэнцаў і студэнтаў рэспублікі, якія цікавяцца фізікай, астраноміяй і касманаўтыкай, а таксама канструяваннем, мадэліраваннем і макетаваннем адпаведна гэтым напрамкам.

Адзначу, што ідэя мае пад сабой зусім рэальную аснову — сотні маладых людзей у рэспубліцы (нягледзячы на тыя цяжкасці, пра якія гаварылася, а таксама на адсутнасць у Беларусі касмадромаў і астранамічных абсерваторый) займаюцца ў астранамічных клубах і гуртках, якімі кіруюць такія вядомыя педагогі, як Я. Чайкоўскі, К. Цыркун і В. Трыбіс у Мінску, В. Сізоў у Бабруйску, Ю. Асінчанка ў Брэсце, М. Астапковіч у Магілёўскай вобласці. 18 чалавек вучацца ў завочнай аэракасмічнай школе пры Маскоўскім фізіка-тэхнічным інстытуце.

У Гомелі пры падтрымцы абласнога ўпраўлення адукацыі на базе Вышэйшага прафесіянальнага вучылішча машынабудавання год назад створаны маладзёжны навукова-тэхнічны цэнтр (МНТЦ). Цяпер тут адкрыта выставачная зала, у якой прадстаўлены макеты авіяцыйнай і ракетна-касмічнай тэхнікі, фатаграфіі (у тым ліку і з аўтографамі касманаўтаў), цікавыя ўстройствы і фізічныя прыборы, уключаючы маятнік Фуко. У відэазале — «касманарыі» — можна паглядзець слайды і відэафільмы па фізіцы, астраноміі і касманаўтыцы. Важна, што МНТЦ адкрыты не толькі для навучэнцаў ВПВ машынабудавання, але і для ўсіх школьнікаў горада.

Прадстаўнікі Гомельскага МНТЦ пабывалі ў Зорным гарадку і Цэнтры падрыхтоўкі касманаўтаў імя Ю. Гагарына, наведалі Падмаскоўны цэнтр кіравання палётамі, спецыялісты якога разам з калегамі з НВА «Энергія» імя С. Каралёва зрабілі выдатны падарунак вучылішчу. Гэта запісаныя на відэакасету «Урокі з космасу». Сёлета яны ўпершыню ў СНД былі паказаны па Гомельскаму тэлебачанню ў перадачах «Запрашаем у... космас», якія ўжо сталі традыцыйнымі.

Сур'ёзны вопыт астранамічнай адукацыі, які заслугоўвае самай пільнай увагі, набыты ў Віцебску, дзе шмат гадоў працуе таленавіты педагог У. Голубеў. Яго выхаванцы з гуртка «Геліас» не раз з гонарам прадстаўлялі Беларусь у міжрэспубліканскіх і міжнародных конкурсах. А Ірына Літвякова пабывала ў ЗША — як фіналіст конкурсу «Разам да Марса!» Заўважце: з СНД туды запрасілі толькі трох чалавек!

Беларусь атрымала афіцыяльнае запрашэнне на VI Міжнародную канферэнцыю юных касманаўтаў, якая адбудзецца ў наступным годзе ў Паўднёвай Карэі. Значыцца, пачынаць рыхтавацца да паездкі трэба ўжо цяпер, каб на канферэнцыі прадстаўляць рэспубліку, а не клубы, як гэта было ў Маскве.

**Уладзімір ЛАРЫЁНАЎ,**
**кіраўнік дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на V Міжнароднай канферэнцыі юных касманаўтаў.**

БЕЛАРУСКІ ДРУК

# «МАЛАДОСЦЬ» ЗАСТАЕЦЦА МАЛАДОЙ І БЕЗ ЎЧАРАШНЯГА КАМСАМОЛА

Для ўсіх нялёгкі быў год, які мы сяк-так дамучваем, дажываем. А для беларускага друку ён стаў і ўвогуле вельмі цяжкім: многія нашы газеты і часопісы апынуліся раптам на мяжы выжывання.

Зусім трывожная сітуацыя склалася і ў «Маладосці» — адзіным у рэспубліцы «тоўстым» часопісе для моладзі. Нечакана адмовіўся камсамол, альбо Саюз моладзі Беларусі, які ўзяў на сябе ўсю спадчыну нядаўняга ЛКСМБ. Адмовіўся ад «Маладосці» і ад некаторых іншых дзіцячых і маладзёжных выданняў. Газетна-выдавецкая фірма «Белая Русь», што якраз і была створана для таго, каб падтрымаць, выратаваць ад рынку дзіцячы і маладзёжны друк, прыслала вясною ў рэдакцыю паперку, дзе ўсяго толькі паведаміла, што яна з чэрвеня месяца г. г. спыняе ўсе фінансава-гаспадарчыя разлікі з «Маладосцю». А бюро ЦК СМБ нават і спецыяльную пастанову прыняло, і выпіску з гэтай пастановы даслала: маўляў, у сувязі з матэрыяльнымі цяжкасцямі мы ад заснавальніцтва адмаўляемся.

Што заставалася нам рабіць? Шукаць спонсараў? Смешна! Дзе вы бачылі такога, народжанага новымі абставінамі, узгадаванага рынкам багацея, які ахвяраваў бы на беларускую справу хоць бы капейку?!

Пачаць зарабляць грошы самім? Ужо нават думалі, як атрымаць мільён, каб потым гадоў пяць выдаваць часопіс. Але цэны на паперу, на фарбы, на друкаванне, на дастаўку так узняліся, так выраслі, што наша мара засталася толькі мараю — што значыць сёння нейкі мільён?! Бо нават тады, калі ўсё было танна, «Маладосці» трэба было мець тыраж 200 тысяч экземпляраў, каб не быць стратнай.

Здрада СМБ нас уразіла. Пра сваю сітуацыю мы паведамілі чытачам:

«Дзіўна, звычайна кожная арганізацыя, якая ствараецца ці абнаўляецца, адразу ж спяшаецца займець і свае сродкі масавай інфармацыі, каб мець уплыў на самыя розныя слаі грамадства. Але абноўлены камсамол рэспублікі з лёгкасцю неймавернай адмовіўся амаль ад усіх сваіх газет і часопісаў. Саюз моладзі Беларусі ставіць сабе за мэту выхаванне моладзі, але як ён будзе гэта рабіць, не маючы сваіх сродкаў масавай інфармацыі,— невядома.

Колькі было радасці, калі амаль сорак гадоў назад, у 1953 годзе тагачасны лідэр беларускай моладзі, першы сакратар ЦК ЛКСМБ, былы настаўнік Пётр Міронавіч Машэраў у нялёгкія пасляваенныя часы знайшоў сродкі і магчымасць для заснавання часопіса «Маладосць». Для моладзі, для беларускай літаратуры і культуры. Для нашай будучыні. А сёння іншы настаўнік і, дарэчы, мовавед і літаратуразнаўца, А. Фядута, якога Саюз моладзі Беларусі абраў першым сакратаром, падтрыманы маладымі аднадумцамі з новага бюро, пачынае сваю працу з адмаўлення ад маладзёжных і дзіцячых выданняў, па сутнасці распраўляючыся з імі. Канешне, бізнес і камерцыя, якім першачарговую ўвагу аддае новы камсамол, патрэбны, але ж і тут ёсць свая небяспека: як бы вам, хлопцы, не застацца з грашамі, але без душы — адпаведна, без духоўнасці».

Пакуль што дзяржава, нічога не патрабуючы ўзамен, падтрымлівае «Маладосць», як і іншыя беларускія газеты і часопісы. Таму трошкі няёмка слухаць, калі сёй-той абураецца, што, маўляў, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, выдзяляючы сродкі, зноў падмінае пад сябе ўвесь друк, зноў устанаўлівае над ім свой кантроль. А тое, што без такой дапамогі яго, гэтага друку, не было б, ён бы проста загінуў,—нікога ўжо не цікавіць. Што ж, такі наш час, і такія нашы клопаты.

«Маладосць» заўсёды імкнулася і нават у такі расхрыстаны час імкнецца да дасканаласці і прыстойнасці. Яна не апусцілася да пошласці, да сексбаевікоў, да прымітыўных падробак і іншай бульварнай лухты. Мы ганарыліся і будзем заўсёды ганарыцца такімі сваімі высокімі публікацыямі, як «Старажытная Беларусь» Міколы Ермаловіча, «Споведзь» Ларысы Геніюш, «Дзённік» Язэпа Драздовіча, іншымі творамі, якія пакінулі выдатны след у беларускай культуры.

І ў новым годзе «Маладосць» будзе імкнуцца захоўваць тую ж чысціню і вышыню, не будзе спакушацца на лёгкія забаўкі, не будзе дамагацца таннай папулярнасці.

У 1993 годзе спадзяёмся надрукаваць новыя раздзелы з унікальнай кнігі Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь».

Чытач, мусіць, заўважыў, што сёлета мы пачалі цікавыя публікацыі «З архіваў КДБ». Ужо надрукавалі матэрыялы са справы Янкі Купалы, якога абвінавачвалі ва ўдзеле ў СВБ— Саюзе вызвалення Беларусі.

У новым годзе—новыя публікацыі. Гэта і цікавейшыя паказанні А. Цвікевіча пра БНР, аб перагаворах з Пілсудскім і г. д. Гэта і следчая справа Вацлава Ластоўскага, і пратаколы допыту Уладзіміра Дубоўкі. Асабліва хочацца звярнуць увагу чытача на каментарыі, якія падаюцца ў канцы кожнай публікацыі: там вельмі поўныя і, можа, самыя дакладныя звесткі пра тых, аб кім ідзе гаворка ў матэрыялах.

Будзе і надалей працягвацца публікацыя Міхася Чарняўскага «Гісторыя Беларусі ў ілюстрацыях». «Маладосць» надрукуе лепшыя творы як маладзейшых, так і старэйшых літаратараў — Івана Шамякіна і Алеся Наварыча, Уладзіміра Дамашэвіча і Анатоля Казлова, Анатоля Сыса, Андрэя Федарэнкі, Адама Глобуса, Барыса Пятровіча і інш. У кожным нумары мяркуем друкаваць падборкі «Упершыню ў «Маладосці»—паэтычныя і празаічныя дэбюты маладых аўтараў.

Пяты год выдаецца «Бібліятэка «Маладосці». Гэта 12 кніжак на год. Колькі першых зборнікаў маладых літаратараў за гэты час пабачыла свет! Колькі пачаткоўцаў прынялі па «маладосцеўскіх» кніжках у Саюз пісьменнікаў Беларусі!

У новым годзе выйдуць першыя кніжкі Вінцуся Мудрова, Марыі Панковай, Уладзіміра Міхно, Леры Сом, Міколы Антаноўскага, Кацярыны Мяшковай і інш.

Хацелася б, каб, не зважаючы на цэны, якія так непажадана выраслі і ўскладнілі падпісную кампанію, нашы пастаянныя чытачы не адмовіліся ад нас.

**Янка СІПАКОЎ,**
**адказны сакратар часопіса «Маладосць».**

**На ўсякі выпадак нагадваем пашпартныя даныя выдання: Часопіс «Маладосць». Індэкс: 74957. Падпісная цана: на 1 месяц—8 руб., на паўгода — 48 руб.**
**Бібліятэка часопіса «Маладосць». Індэкс: 74821. Падпісная цана: на 1 месяц—6 руб., на паўгода—36 руб.**

**У БЕЛАРУСІ ТОЛЬКІ ДВА КОНЕЗАВОДЫ. Адзін з іх у вёсцы Лютня Мсціслаўскага раёна. Тут разводзяць пароду «Рускі цяжкавоз». На заводзе звыш 460 коней, з іх паўтары сотні рабочых, а астатнія — племянныя. Раней усе гаспадаркі арыентаваліся толькі на трактары, іншую сельгастэхніку. А зараз ужо і на коней пачынаюць глядзець — і танней, і зручней, асабліва калі гаспадарка невялікая. Павышаецца попыт на сіўку, адным словам...**

**Развядзенне цяжкавозаў галоўны, але не адзіны напрамак дзейнасці гэтага прадпрыемства. Тут ёсць больш як 5.700 гектараў зямлі, жывёла. І, адпаведна, конезавод здае мяса, малако, бульбу, зерне. У сувязі з гэтым хапае і праблем—складана здаць мяса, няма грошай на дарагія будматэрыялы. І тым не менш пакуль што завод робіць сваю справу—разводзіць добрых коней, якія дарэчы, на спаборніцтвах цягнулі воз вагой 26 тон. Думаецца, такія памочнікі спатрэбяцца ў вёсцы—фермерам, іншым гаспадаркам.**

**НА ЗДЫМКАХ: работніца завода М. ЦІТОВІЧ доіць кабыліцу; на выпасе.**

Фота Васіля ФЯДОСЕНКІ.

## Мядовае зімоўе

**Хутка лістапад, у пчаляроў новы клопат: перанос вулляў у імшанікі, падполлі, лазні, пуні і іншыя ціхія месцы, дзе 150 дзён і 150 начэй давядзецца сядзець крылатым сябрам, не вылятаючы на волю.**

Можна зрабіць просты навес з дошак — яго можа зрабіць любы чалавек. Пад навесам (3) устаноўлены ў рад вуллі (1) на адлегласці 30—40 см адзін ад другога. Можна іх ставіць і бліжэй. Перад вуллямі сценка (5) з такіх жа дошак з квадратнымі прапіламі супраць кожнага верхняга лятка. У гэтыя прапілы ўстаўлены драўляныя трубы — калідорчыкі (4) даўжынёй 40 см, шырынёй 15 см. Адным канцом гэтая труба ўтыкаецца ў корпус вулля, у тое месца, дзе верхні лéток дыяметрам 2,5 см; другім скрозь сценку выходзіць наверх на паўднёвы бок. **Звярніце ўвагу — гэта вельмі важна: абавязкова на поўдзень.** Ніжнія лéткі закрыты наглуха.

У лютым у асобныя дні бывае цёпла, і тыя пчолы, якім не хапае цярплівасці, выходзяць у прагрэты сонцам калідор і апраўляюцца. Асабліва часта гэта даводзіцца рабіць старым пчолам. Калі б не было такога калідорчыка, пчолы апраўляліся б у гняздзе на соты, што пагражае паносам і гібеллю сям'і. Прапануемы спосаб зімоўкі папярэджвае распаўсюджванне заразы.

На знешнім канцы калідорчыка прыбіты кавалак густой сеткі, каб зімой сінічкі не турбавалі пчол. Простае прыстасаванне, а якое каштоўнае! Скрозь яго без перашкод пранікае паветра, святло, самі пчолы ў цёплыя дні, а пражэрлівым пчалаедам не пранікнуць. На выпадак моцных вятроў са снегападам прадугледжаны накрыўкі з ДВП на адным цвіку, каб шчыльна закрывалі трубу.

Усе вуллі за сценкай пад навесам засыпаны сухім пілавіннем (2). Зверху, каб яго не раздуваў вецер, накінуты стары брызент. Замест пілавіння прастору паміж вуллямі можна запоўніць нарэзанай сухой саломай, стружкамі, старым сухім лісцем з сада — усе гэтыя матэрыялы даступныя кожнаму. Самы просты навес можна зрабіць з аполкаў, без вялікіх затрат. Адпадае неабходнасць у тэрмарэгулятары, абагравальніках, знікае небяспека пажару (бо тэрмарэгулятар і абагравальнікі пажаранебяспечныя).

Кожны пчаляр, які яшчэ не вырашыў, дзе будуць зімаваць яго вуллі, няхай прыслухаецца да нашай парады, шкадаваць не давядзецца: пчолы з зімоўкі выйдуць здаровыя, хутка нарошчваюць моц сям'і і клешч Вароа — гэты біч сучаснага пчалярства — ва ўмовах такой зімоўкі амаль не размнажаецца. Відаць, таму, што няма лішку вільгаці і цяпла, заўсёды свежае паветра ў сям'і пчол, як, скажам, у пчол, што зімуюць у падполлі.

629

ХАТНІЯ НАРЫХТОЎКІ

## Квасім капусту

**У старажытных рэцэптах спецыяльна падкрэсліваецца, што хрусткую капусту можна атрымаць, калі нарыхтоўваць яе ў час маладзіка. І, між іншым, знаўцы сцвярджаюць, што такая рэкамендацыя — нешта большае за жарт. Так ці інакш— вось некалькі рэкамендацый па яе прыгатаванню.**

Не перапрацоўвайце капусту вялую, рыхлую, падмарожаную. Стружка (3—5 мм шырынёй) павінна быць па магчымасці аднароднай.

**Соль да капусты дабаўляюць з разліку 2—2,5 кг на 100 кг капусты — не больш і не менш.**

**Можна дадаць яблыкі, журавіны ці брусніцы — да 5 працэнтаў ад вагі, 3 кг морквы, 30 г лаўровага ліста на 100 кг.**

Укладзеную ў бочку ці чан капусту, паслойна змяшаную з соллю і дабаўкамі, накрыйце кружком, на які пакладзіце не вельмі цяжкі камень (10 працэнтаў ад вагі капусты). Трымайце капусту ў кватэры. На працягу 10—15 дзён здымайце лішнюю пену, а таксама цвіль. Час ад часу пратыкайце яе чыстай драўлянай палачкай. Праз 2 тыдні капуста гатова да ўжывання.

**А як захоўваць яе ў далейшым, калі няма падвала? Кіслую капусту можна закансерваваць.**

Гэта зусім няцяжка. Нічога не дабаўляючы ў гатовы прадукт, нагрэйце кіслую капусту з расолам у

630

эмаліраванай каструлі да 100° і адразу ж перакладзіце ў таксама нагрэтыя шкляныя слоікі.

Можна адцісну́ць і давесці да кіпення толькі расол, зняўшы пену. Гарачы расол разліваецца (100—150 г) у літровыя слоікі і ў яго падпрасоўваецца капуста. Калі расолу малавата, можна дабавіць двухпрацэнтны раствор солі. Напоўненыя слоікі закаркоўваюць і стэрылізуюць — літровыя 35 хвілін, паўлітровыя — 25.

•••

Чырвонакачанная капуста мае вялікую колькасць каштоўных для арганізма чалавека пажыўных рэчываў, валодае і лекавымі якасцямі.

У ежу ўжываюць чырвонакачанную капусту, як правіла, у свежым выглядзе. З яе можна прыгатаваць розныя салаты, гарніры, многія прыправы. Вельмі смачная капуста ў марынаваным выглядзе. Выкарыстоўваецца для квашання.

**САЛАТА З ЯБЛЫКАМІ**

Памыты качан капусты нашаткаваць, паліць воцатам, пакінуць на 3—5 гадзін. Пасля выстойвання капусту пасаліць, пасыпаць чорным перцам, дадаць нарэзаныя дробнымі кубікамі яблыкі, а потым паліць алеем.

Адзін качан капусты, два яблыкі, воцат, алей, чорны перац, соль — па смаку.

СА СТАРАЖЫТНАЙ ПРАКТЫКІ

## «Чорная» соль

**Гэтую звычку, пра якую тут пойдзе гаворка, маюць у асноўным жыхары мясцовасцей на паўночны ўсход ад Масквы, асабліва Кастрамской вобласці. Але мелі яе калісьці і насельнікі некаторых лясных і балоцістых мясцін Беларусі — на Віцебшчыне і Палессі. Маецца на ўвазе звычка рабіць і ўжываць так званую «чорную» соль.**

Для яе прыгатавання бяруць звычайную белую соль буйнога памолу, дадаюць замочаны ў вадзе жытні хлеб, усё гэта добра перамешваюць, загортваюць у анучку і кладуць або ў сялянскую печку, або ў касцёр на палаючыя дровы. Пасля таго, як гэтая сумесь абвугліцца, яе таўкуць і прасейваюць. Атрыманай «чорнай» соллю пасыпаюць ежу перад ядой. Тыя, хто каштаваў ежу з «чорнай» соллю, сцвярджаюць, што з ёю ежа нават больш смачная, чым са звычайнай — белай соллю.

Але, вядома, кулінарныя рэцэпты і прыёмы ўзнікаюць не на пустым месцы,

631

яны не выпадковыя, не адвольныя і ствараюцца ў выніку працяглай эвалюцыі, пад уплывам прыродных, гістарычных і сацыяльных фактараў.

Якімі ж уласцівасцямі «чорная» соль адрозніваецца ад звычайнай белай?

«Чорная» соль не адсырвае. Гэтаму садзейнічае 6—8-працэнтная колькасць у ёй вугляроду ў выглядзе дробнапорыстага вугалю. Вядома, што і сучасныя кулінары часам дадаюць у белую соль крухмал або рыс, каб яна не адсырвала.

Пасля перапальвання з хлебам буйная соль робіцца рассыпчастай і дробнакрышталічнай. Да таго ж, буйной соллю (а іншай у старажытным сялянскім ужытку проста і не было) саліць ежу было нязручна.

Звычайная соль, як вядома,—гэта хлорысты натрый з невялікім дамешкам мінеральных рэчываў зменлівага саставу. Аналізы і разлікі паказалі, што растваральная частка «чорнай» солі ўтрымлівае 94 працэнты хлорыстага натрыю. Астатнія каля 5—6 працэнтаў — гэта попел ад хлеба. Попел гэты ўзбагачае соль такімі жыццёва важнымі рэчывамі, як злучэнні ёду, калію, кальцыю, медзі, цынку і г. д.

Адным словам, гэты старадаўні рэцэпт варты таго, каб яго не забывалі. Ва ўсякім выпадку, трэба хоць раз пакаштаваць «чорнай» солі. А раптам спадабаецца?

## Каб кніга служыла даўжэй

Найпершая парада — загарніце кнігу, якую чытаеце ці даяце пачытаць, у паперу ці спецыяльную вокладку з поліэтылену.

Здымаючы кнігу з паліцы, адразу пакладзіце ў яе закладку — тады не трэба будзе загінаць старонкі.

Кніжныя паліцы, стэлажы, шафы час ад часу праветрывайце — кнігі любяць дыхаць. А вось пылу і вільгаці не пераносяць, таму ў час генеральнага прыбірання трэба зняць іх з паліц, працерці сухой, мяккай анучкай або апрацаваць пыласосам

Брудную вокладку можна працерці ватным тампонам, змочаным нашатырным спіртам, прасушыць і выцерці мяккай анучкай.

Тлустыя плямы на старонках выводзяцца растворам бульбянога крухмалу (сталовая лыжка на шклянку вады). Калі крухмал высахне, сцерці яго мяккай анучкай.

Чарнільныя плямы змочваюць перакісам вадароду, праціраюць вільготнай ватай. Затым пакласці зверху і знізу апрацаванага месца прамакальную паперу ў двабы слаі і закрыць кнігу.

632

